# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку № 13

ІЛЮСТРАЦЫЯ ДА ПАЭМЫ ЯНКІ КУПАЛЫ «КУРГАН».



Прывяла гусляра з яго ніўных сяліб  
Дворня князева ў харам багаты,  
Пасадзіла на ганку, між клёнаў і ліп,  
На цагляным парозе магната.

Невыдумная світка — убор на плячах,  
Барада, як снег белы — такая,  
Незвычайны агонь у задумных вачах,  
На каленях ляглі гуслі — баі.

Знаёмімся з нашымі мастакамі



**Уладзімір КАРПЕНЮК** — нар. у 1929 г. у Баброўніках, Беластоцкага павета. Закончыў факультэт мастацтва Торунскага універсітэта. Працуе над гістарычнай тэматыкай.

ЛЕОН ПАСТЭРНАК

## Не каркай, не каркай...

Аповесць выдаў раз пісьменнік,  
дзе ён даказваў без сумнення,  
што подлая ў людзей натура,  
што ўсё ёсць лухта, глупства, дурасць,  
што ўсюды хамства і гультайства,  
што ўсюды подкуп і зазнайства,  
і што жыццё ўсё — недарэчнасць,  
хандра, пакута, горыч вечна,  
што ўсюды вее безнадзейнасць,  
дрыгва бязмежна, безідэйнасць,  
і што лякарств няма ад зла —  
Толькі гарэлка і пятля...  
А потым аўтар наш пануры  
паехаў з дзеўкай на Мазуры,  
там паляваў, скакаў, купаўся,  
збіраў грыбы, зрываў малінкі,  
глытаў старанна вітамінкі,  
і еў пажыўна, дыетычна,  
жыў (без эксцэсаў) эратычна,  
калі ж пад вечар у нядзелю  
пачуў ён салаўіны трэлі,  
то песімізму згінуў след,  
і ўбачыў ён прыгожым свет!..  
Чаму ж, чаму ж, мой ты пісьменнік,  
Так пішаш аб жыцці страшэнна?  
наводзіш жудасць і кашмары  
і адбіраеш многім мары?  
Калі ж ты праўду пішаш нам  
То перш ад нас павесся сам.

Пераклаў з польскай мовы **Д. ШАТЫЛОВІЧ**

## «Рускі голас» аб «Руні»

За «Газетай беластоцкай» і «Літаратурай і мастацтвам» адгукнуўся на «Рунь» «Рускі голас».

У апошнім нумары двутыднёвіка Рускага культурна - асветнага таварыства друкуецца артыкул А. Белавежава, які, між іншым, піша, што «Рунь» «з'яўляецца вялікай падзеяй у літаратурным жыцці славянскіх меншасцей нашай краіны. Яго паяўленне у свет — гэта вялікая заслуга Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства, гэта прыклад для другіх меншасных арганізацый. Рускія паэты, пражываючыя ў Польшчы, пакуль толькі могуць пазайздросціць сваім беларускім сябрам...».

Аўтар артыкула хваліць вершы Міколы Базылюка, якія называе «добрымі, непасрэднымі і свежымі». Асабліва адзначае «Зіму», у якой чутны блокаўскія матывы». З вершаў Алеся Барскага А. Белавежаў выдзяляе «Восень», аб «Роднай краіне» Тодара Грушкі піша: «верш выклікае ў чытача моцнае, непасрэднае ўражанне». Вершы Віктара Шведа ацэньваюцца ў артыкуле як вельмі добрыя. Як заяўляе аўтар, неўзабаве іх у рускім перакладзе надрукуе «Рускі голас». А. Белавежаў дае таксама заяўку на далейшае абмеркаванее «Руні» ў «Рускім голасе».

Газета змяшчае таксама абложку нашага зборніка.

## У літаратурным аб'яднанні

12 чэрвеня г. г. у Літаратурным аб'яднанні пры рэдакцыі «Ніва» адбылося абмеркаванне новых апавяданняў члена аб'яднання Сакрата Яновіча.

Васіль БАРШЧЭЎСКІ

# ГАНУЛІНЫ КЛОПАТЫ

Ганулю разбудзіў квік парасяці. Неяк жаласліва выводзіла яно пісклівыя арыі пад паччу і моцна калатала сваім лычом у бляшаную засланку.

Гануля ўставала з неахвотай. Яна, высунуўшы ўскудлачаную галаву з-пад працёртага радна, соладка мляснула вільготнымі губамі, і, не расплюшчваючы заспаных вачэй, ізноў нацягнула радно.

— Кві-і-і-і-і! Кві-і-і-і! — даваў знаць аб сваёй прысутнасці гаспадынін выхаванак. Гануля паварушыла нагамі. І раптам да квіку парасяці далучыўся не менш прарэзлівы піск дзіцяці. Гэта загаласіла прыціснутая да шчытка ложка ганулінымі нагамі яе шасцігадовая дачушка Зося. Так ужо было заведзена, што на адным ложку спала ўся сям'я. У адзін бок галовамі гаспадары — Гануля з мужам Пракопам, а ў іх нагах, у другі бок — дзеці: Зося ды Пеця. Так больш месца. Праўда, узімку дык Гануля або Пракоп клаліся спаць на печы. А ўлетку не вылежыш — спячыся можна. Урэшце Гануля ўстала. Яна прыкрыла радном прыціхшае дзіцё і, пацягнуўшыся так, што аж у вачах пацямнела, падалася да печы.

— А ксюля! — акаянны, — прыкрыкнула яна, стукнуўшы ў засланку нагой. Парася раптам абарвала сваю арыю. У той жа час закудахталі пад печчу перапалоханыя куры.

— Выпусціла б ты, Гануля, іх на двор, — спрасонку прабурчэў Пракоп.

— А ты пан не вялікі, — бурчэла Гануля, — — калі хочаш спаць, дык і куры ніпачым.

Пракоп са злосцю нацягнуў радно на вушы. Парася, мабыць, асмялеўшае падбадзёрваючым кудахтаннем чубатак, зноў пачало паквікваць.

Калі Гануля нагнулася адняць сыроватку, што за ноч нацякла ў ражку з падвешанага на вушак кужэльнага сырніка — і цяпер выцякала краямі, утвараючы на гліняным памосце жоўта-залацістую лужыну, з сырніка ўзняўся рой гудзячых мух.

— Нідзе ад вас нельга падзецца, — адганяючы мух, прагаварыла Гануля. Яна адставіла перапоўненую сыроваткай ражку і, адсунуўшы з падпечка засланку, выпусціла парася і падсунула нагой яму ражку.

Парася, пахрупваючы пачало жлопаць сыроватку, распырскваючы яе кругом ражкі.

На снеданне Гануля вырашыла напячы бульбянікаў. Начысціўшы бульбы, перацерла яе на церцы, дасыпала жменю мукі, пасаліла ўсё гэта, вымяшала драўляным апалонікам і, паставіўшы на зэдліку, пайшла даіць кароўку.

Пракоп прахапіўся ад трэску лопнуўшай пасуды. Спачатку яму здалося, што нехта кінуў каменнем у акно. Але калі, ён працёршы заспаныя вочы, паглядзеў на кухню, дык зразумеў, што гэта віна парасяці. Яно аплятала прыгатаваную Ганулян рошчыну. На памосце валяліся кусочкі разбітай міскі і перакінуты зэдлік.

— Усё ж-такі трэба ўставаць, — падумаў Пракоп. І ён пакрэктваючы, як стомлены цяжкай працай чалавек, вылез з ложка. Не ад работы крактаў Пракоп. Такі ўжо яго звычай. У сапраўднасці не любіў Пракоп працы.

Бывала, у гарачыню летніх работ, калі аднавяскоўцы, бы тыя мурашкі, капошацца ў полі ці на сенажаці, заліваючыся потам, Пракоп сядзе ў цянёчку пад хатай, ды дрэмлючы пячэ праз увесь дзень самасад. І каб не надакучлівыя мухі — Пракопу рай на зямлі.

— Памажы Божа, Пракопе! — гукне яму з вуліцы праязджаючы сусед, і, стукнуўшы ляйчынай канюку, паімчыцца ў поле. Пракоп расплюшчыць адно вока, гляне сонна на вуліцу і зноў дрэмле.

— Адпачні, Пракопе. Перакуры. Навошта табе забівацца працай, — з насмешкай скажа іншы. Пракоп расплюшчыць другое вока, паглядзіць пагардліва на аддаляючагася суседа і зноў намагаецца драмаць.

— Вось людзі, — думае Пракоп абыякава. — Сам дурань ад цямна да цямна працуе, ды чалавеку не дасць спакою.

Звыкся Пракоп з насмешкамі аднавяскоўцаў і не злаваўся за іх. Думкамі, як яму здавалася, Пракоп стаяў шмат вышэй за ўсіх суседзяў.

— Працуюць, дурні, як пры паншчыне, — думаў Пракоп. — Нябось, цяпер народная ўлада, чалавек павінен адпачыць. Хопіць, прадзеды напрацаваліся. Чалавек ёсць для таго і чалавек, каб не працаваць. Тым ён і розніцца ад жывёлы. Жывёла нябось моцная. Яна ж і створана, каб працаваць. А чалавек, абы пражыць, — філасофстваваў Пракоп.

Мабыць, за гэтую філасофію і выкінулі Пракопа ў мінулым годзе са спулдзельні.

— Мо' гэта і лепш, — сказаў тады жонцы Пракоп. — Цяпер хоць папракаць ніхто не стане. А яны няхай там забіваюцца работай. Чорт з імі. Я не дурны. Сам сабе гаспадар. Што захачу, то і зраблю.

— Бяда ў тым, што ты нічога рабіць не хочаш, — цяжка ўздыхнуўшы, адказала Гануля.

Так і жыў Пракоп пастарому. У вёсцы за час існавання народнай улады шмат чаго змянілася. Людзі пабудаваліся, прыдбалі сабе мэблю і жыць сталі культурней. Шмат у каго радыё ў хаце іграе. А суседаў Сярожка, што ў ПОМ-е працуе дык матацыкл сабе купіў і ў кожную нядзелю ганяецца на ім з дзяўчатамі па вёсцы.

— На чорта мне гэтыя штучкі, — думаў Пракоп. — Дзяды жылі без іх і я пражыву.

І калі не лічыць кніжак, якія з'явіліся ў хаце з таго часу, як Пецька пайшоў у школу, дык ані ў жыцці, ані ў хаце Пракопа нічога не змянілася. Хіба толькі тая розніца, што бацька, дзед і прадзед цяжка працавалі на паноў і нічога не мелі, а Пракоп нічога не мае, але за тое і не працуе. І, што дзіўна, Пракоп не бачыць ніякай патрэбы, каб змяніць сваё жыццё, зрабіць яго больш падобным да жыцця суседзяў. Ён з ім зжыўся і прывязаўся да яго, як цюцька да свае спарахнелае будкі.

(Працяг на стар. 4)

 

# Квадрат Б-52

(Працяг са стар. 2)

—Слухай, прыяцель падары ты мне яго. З сабою табе яго нельга ўзяць, а тут усёроўна згіне...

— Ідзі ты к чорту! Я яго лепш сябру ў Мюнхен пашлю, чым табе, скнары, дарыць! — вылаяўся Джо.

Нік Ворд зусім не засаромеўся ад гэтых слоў.

— Не хочаш падарыць — давай мяняцца. Вось бяры, — ён працягнуў Джо новенькую запальнічку. — Каштуе чатырнаццаць марак, безадказная. Бензін трымае тры тыдні...

Джо спыніўся. Узяў запальнічку, чыркнуў.

— А, хрэн з табой, шматачнік! Бяры!

Нік радасна хлюпнуў носам і сунуў касцюм у кабіну.

— Цяпер нам пара да самалёта... — павесялеўшым ад удачнага гандлю голасам абвясціў Ворд. — Дык не забудзьце камбінезоны, у іх скакаць будзеце...

І яны рушылі да самалёта.

На бамбардзіроўшчыку не было ніводнага апазнавальнага знаку ці нумара. Прысадзісты фюзеляж як быццам бы прыпаў вострым шкляным носам да шэрых пліт бетону, і самалёт гэты напамінаў драпежную рыбу, гатовую да разбойнічага рыўка. Гэты страшны, зладзейскі выгляд самалёта неяк асабліва падкрэслівалі бартавыя ілюмінатары, заклееныя ў сярэдзіне чорнай паперай.

Фін, Джо, Карл і Бэн выскачылі з кузава, склалі на бетон набітыя рэчавыя мяхі і парашуты, якія прыбылі на другім «доджы». Тут жа падскочыў «мерседэс». Хлопнулі дзверцы, і з машыны вышлі начальнік школы Віктар і Барыс Рагуля.

— Ну што ж, хлопчыкі, пара ў дарогу, — бадзёра абвясціў Віктар, за руку развітваючыся з кожным «хлопчыкам». — Задача ясная, паўтарацца не будзем. Жадаю поспеху і чакаю ад вас добрых вестак заўтра ва ўмоўлены час!

Віктар глянуў на гадзіннік і дадаў:

— Гадзін праз шэсць будзеце на месцы. Абставіны выдатныя: сінаптычная разведка даносіць, што ў раёне вашага прызямлення нізкая воблачнасць, магчыма — дажджы. Паляціце без агнёў і асаблівага шуму, як сапраўдныя начныя птушкі! Самалёт няўзброены. Калі вас абстраляюць — выкідвацца з лёгкім грузам і ісці на выкананне задання самастойна. Нямецкія маркі і польскія злотыя атрымаеце ў камандзіра карабля. Ну, дык, хлопчыкі, пара! — і Віктар пахлопаў Карла па плячу.

Яны паволі падняліся ў самалёт.

У кабіне слаба свяцілі сіняватыя плафоны, пахла бензінам. Механік зачыніў дзверы, самалёт здрыгануўся ўсім корпусам, крута развярнуўся на месцы і паімчаўся па бетону.

...Яны ляцелі ўжо некалькі гадзін. За бартом, відаць, пагасла сонца, і хаця Фін нічога не мог убачыць праз чорную паперу, ён разлічыў, што па часу наступіла ноч. Джо, Карл і Бэн, якія заснулі пад роўны гул матораў, храплі. Самалёт часамі трасло, Фін адчыняў вочы і бачыў перад сабою зачыненыя дзверы кабіны. Каля іх на раскладным крэсле сядзеў незнаёмы круглатвары хлопец. Ён абыякава рухаў сківіцамі, пяражоўваючы гумку, і не спускаў вачэй з чатырох пасажыраў.

«Вартуе пілотаў! Баяцца нас, сволачы!» — мільганула здагадка ў Арцюшэўскага.

Ён хацеў быў спытаць у хлопца, ці доўга яшчэ ляцець, калі з кабіны вышаў высокі пасівеўшы чалавек.

— Дзе мы? — запытаў яго Фін.

— Ідземы над можэм... — па-польску адказаў той.

«Значыцца, каб замесці сляды, яны вырашылі ісці над Балтыйскім морам, мінуць Польшчу і адтуль — на Налібокі», — здагадаўся Фін.

Праз паўгадзіны гэты доўгі зноў вышаў і загадаў падрыхтавацца. Усе чацвёра падняліся, надзелі заплечныя мяшкі, рацыі, замацавалі лямкі парашутаў. Да ног яны прышпілілі моцныя шоўкавыя стропы, метраў па шэсць даўжынёю. Другімі канцамі гэтыя стропы былі прымацаваныя да мяхоў з абсталяваннем, ежай, патронамі і аўтаматам. Высокі чалавек старанна праверыў кожнага і, калі загула сірэна, адчыніў дзверы. Мрокам і вільгаццю дыхнула звонку.

Фін сціснуўся ад непрыемнага адчування.

Загула сірэна.

— Вышыня чатырыста, вецер сустрэчны. Пайшоў!

Фін глянуў у дзверы. Цёмны авал адчыненых дзвярэй равеў ад гула матораў, далёка ўнізе, на зямлі, мільгануў і знік слабы-слабы аганёк. Бэн першым схапіў свой мяшок, падцягнуў яго да дзвярэй, схапіўся правай рукою за выцяжное кальцо. Агледнуўся і разам з мяшком кінуўся ў чорную бездань.

— Пайшоў хутчэй! — крыкнуў даўгавязы.

Моцны сустрэчны паток ірвануў Арцюшэўскага, адкінуў назад, перавярнуў некалькі разоў. Купал парашута з трэскам адчыніўся, потым моцным рыўком пацягнуў мяшок, які павіс недзе ўнізе, пад Фінам, і наступіла цішыня. У далечыні чуўся гул матораў самалёта, які аддаляўся на захад. Вось і ён заціх, і цёмная маўклівая зямля маланкава панеслася насустрач дыверсанту.

Удар быў нямоцны. калі мяшок упаў на зямлю, падзенне стала зусім павольным Фін сваечасова змог разгледзець зямлю, спружыніў, ды імшысты лужок значна змякчыў удар. Фін упаў і, пакуль недзе спераду яго з ціхім шорхам гас шоўкавы купал, ляжаў безруху.

Было незвычайна ціха. Толькі сэрца калацілася так, што здавалася білася яно аб самую зямлю.

Аддыхаўшыся, Фін падняўся. Асцярожна ступаючы, пачаў збіраць парашут.

Адна страпа яго за нешта зачапілася, Фін пашукаў рукою і моцна рвануў яе. Тонкі, рэзкі боль пранізаў палец. «Чорт, парэзаў асакою!» — зразумеў ён. Фін сунуў палец у рот, каб высасаць кроў. і разам з запахам крыві раптам адчуў чуць вільготны, прыемны, радуючы душу запах травы і роднай зямлі...

Фін устрапянуўся, як быццам успомніў нешта, але ў гэты момант недзе непадалёку справа ціха-ціха, як быццам бы праз сон, прастагнала крыжанка. Зноў усё замерла, і зноў прастагнала крыжанка. Потым яшчэ два крыкі з розных бакоў данесліся да Фіна, і тады ён дастаў свой манок...

Дыверсанты сабраліся на ўскраю лужка, акружанага маўклівай сцяною спакойнага цёмнага лесу. Запахі прэлай травы, грыбоў і апаўшага асінавага лісця, здавалася, напоўнілі ўвесь свет, і Арцюшэўскі з растучай трывогай і болем убіраў у сябе гэты горкі арамат роднай зямлі, дыхаў часта, паспешна, як быццам бы баючыся ўдыхнуць поўнымі грудзьмі і раптам захлябнуцца гэтым араматам насцярожанага лесу.

— Пара за справу! Бяры лапаты, трэба парашуты хаваць! — паўшопатам загадаў Карл.


Прылады дыверсантаў.

Фін дастаў з заплечнага мяшка невялікую складаную сапёрную лапатку. Карл падцягнуў парашуты, і белы купал аднаго з іх адліваў на цёмным дыване травы мёртвым водблескам халоднага шоўку.

Бэн, асцярожна ступаючы з аўтаматам наперавес, пайшоў на ўскрай лужка. Джо стаяў на месцы, пакуль Фін і Карл асцярожна здымалі дзёрн і капалі мятровую яму. Зямлю, каб не пакінуць слядоў, зсыпалі на купал парашута і потым таксама апусцілі ў яму. Закончыўшы справу, дыверсанты акуратна, як і вучыў іх гэта рабіць «Сібірак», заложылі яму пластамі дзёрну.

— Цяпер выходзіць адсюль! Пакуль навокал усё ціха і спакойна! — прашаптаў, вярнуўшыся з аховы Бэн.

І яны, крок у крок, рушылі лясным гушчаром на паўночны захад. Ззаду ішоў Бэн. Следам за сабой ён цягнуў на вяроўцы невялікую торбачку, набітую нейкай ядавітай гадасцю. Цяпер нават чуткая аўчарка не магла б узяць іх след.

Шлях іх працягваўся ўсю ноч.

Густыя зараснікі арэшніку, асіны і шыпшыны паўставалі сцяною на шляху дыверсантаў, і гэтыя чацвёра ўздрыгвалі ад кожнага неасцярожнага руху, пужаліся крыкаў начных птушак і слабых водблескаў маўклівых светлякоў.

Гадзін у пяць дыверсанты спыніліся пры невялікім ўзлессі каля рэчкі Жэчыца. Джо і Фін засталіся каля мяхоў, Бен і Карл пайшлі на разведку. Вярнуліся яны гадзіны праз дзве мокрыя ад расы, галодныя і стомленыя.

— Нічога страшнага не бачылі. Пакуль усё спакойна. Знаходзімся мы тут...

Бэн дастаў карту двухкіламетроўку Баранавіцкай вобласці і пры святле кішэннага ліхтарыка адшукаў пальцам адзін з квадратаў.

— Можаш звязвацца з цэнтрам, Джо...

Джо ўстанавіў на трынозе рацыю, расцягнуў антэну па галінах дрэў і ўключыў батарэю. Ключ яго працаваў дробна, паспешна. Ен двойчы вызываў Франкфурт-на-Майне і не пачуў адказных пазыўных «Дві дэ мае».

— Адыходзіць! — загадаў Карл, калі Джо такі не дабіўся сувязі. — Адыходзіць, пакуль не засеклі рацыю.

Яны зноў паглыбіліся ў пушчу і, выбраўшы глухі куток, стомленыя паваліліся на траву і спалі да дзесяці гадзін.

Калі Джо другі раз развярнуў рацыю, цэнтр пачуў яго, і яны перадалі шыфраваную радыёграму: «Прызямліліся паспяхова. Рэчы, людзі цэлыя. Пакуль усё спакойна. Прыступаем да выканання».

У поўдзень, пакінуўшы Карла і Бэна ў лесе капаць зямлянку, Джо і Фін накіраваліся на дэтальную разведку мясцовасці і абставін. Вызначыўшы па карце шлях, шпіёны рушылі на рэчку Камянку, у бок маленькага лесапільнага завода.

(Працяг будзе)

# Ці нешчаслівы выпадак?

20 мая г. г. у рацэ Нарве ўтапіўся вучань Нараўскай школы Пётр Асташэўскі, які пражываў у вёсцы Макаўка.

У гэты дзень Асташэўскі з сваім аднавяскоўцам Ваўранюком, таксама вучнем Нараўскай школы, адправіліся пасля заняткаў да недалёкай ракі, каб выкупацца. Па дарозе да іх далучыўся іх сябра Грыц. І тут над ракой здарылася няшчасце, якое ўскалыхнула ўсё насельніцтва аколіцы. Усе жыхары прытрымліваюцца думкі, што выпадак быў праднамераны. Бацькі Асташэўскага і Ваўранюка жылі ў нязгодзе. Я не буду рабіць такога вываду — гэта належыць да адпаведных улад, якія павінны дакладна расследаваць справу і сказаць сваё канчатковае слова.

Мяне хвалюе іншая справа. Без перапынку ціснецца пытанне: як выхоўваецца ў нас на вёсцы падрастаючае пакаленне? А выхоўваецца яно часта вельмі дрэнна.

У часе выпадку сябры Асташэўскага не паднялі трывогі, хоць непадалёку знаходзіўся дарослы чалавек, які мог бы дапамагчы бядзе. Больш таго. Пасля здарыўшагася Ваўранюк адвёў веласіпед Асташэўскага да яго бацькоў і пакінуў пад хатай, не сказаўшы нікому аб выпадку.

Толькі на другі дзень, калі мясцовым пісьманосцам была знойдзена над ракой дзіцячая вопратка і трапіла ў школу, пачаліся пошукі загінуўшага Асташэўскага. Пры расследаванні выявілася, што апошні раз яго бачылі з Ваўранюком. І толькі на пытанні настаўнікаў Нараўскай школы Ваўранюк расказаў аб здарыўшымся.

Ці маўчанне Ваўранюка і Грыца было выклікана страхам перад фізічнымі пакараннямі з боку бацькоў? — на што яны і спасылаюцца. Мне здаецца, што не. Гэта ж ужо дзеці, якія маюць больш дзесяці год.

Калі б гэтым дзецям змалку бацькі засявалі ў душы зерні пачуцця таварыства і дапамогі другому ў бядзе, не атрымалася б трагедыі. Тады ў звышдзесяцігадовых хлопчыкаў не было б поўнай абыякавасці да лёсу таварыша, а нават да яго смерці. Прынцып «чалавек чалавеку воўк» непрыемлівы для нашага грамадства і мэт, якія мы сабе паставілі.

Сярод нашага насельніцтва, асабліва вясковага, бытуе яшчэ звычай уцягваць у сваркі старэйшых таксама і дзяцей. Гэты звычай, як наскрозь прагніўшая спадчына мінулага, павінен быць раз і назаўсёды выкінуты з жыцця, як шкодны яд, які затрувае арганізм.

Парвалася жыццё здольнага хлопчыка, перад якім раскрываліся шырокія перспектывы. Трагедыя Пеці вучыць многаму...

Бацькі павінны сур'ёзна падумаць над пытаннем, ці выхоўваюць яны сваіх дзяцей сапраўднымі грамадзянамі сваёй радзімы і ці вырасце з іх дзяцей сапраўдны чалавек. Ад поўнай абыякавасці да лёсу другіх — адзін крок і да злачынства.

Было б карысным, каб над гэтымі пытаннямі больш сур'ёзна падумала таксама і школа. Здаровае маладое пакаленне — гэта нашая супольная справа.

П. ПАДБЕЛЬСКІ

# Бельшчыне прыбыў яшчэ адзін гурток БГКТ

**У Пашкаўшчыне 14 чэрвеня адбыўся сход жыхароў вёскі. З гутаркай аб Беларускім Таварыстве выступіў сябра Кастусь Майсеня — старшыня Павятовага Аддзела БГ-КТ.**

**На сходзе вырашана ўтварыць гурток БГ-КТ у які ўступіла каля 30 асоб.**

**Гэты гурток карэнным чынам розніцца ад іншых гурткоў тым, што да яго належаць пераважна былыя члены КПЗБ і «Грамады».**

(ся)



 

 

**ПАЖАР НА МОРЫ.**
**СМЕРЦЬ «ЦІТАНІКА».**
**У ЛЯДОВАЙ НЯВОЛІ.**

# У ЦАРСТВА*) НЕПТУНА

Пажар на моры, здавалася б, не павінен быць страшны. Аднак многа караблёў і людзей загінула, папаўшы паміж двух стыхій — вады і агню.

Англійскае паруснае судно 11 верасня 1874 года выплыла з Лондана ў Аўстралію .На судне было 429 пасажыраў, пераважна эмігрантаў. 17 лістапада карабель мінуў мыс Добрай Надзеі. Раптам на караблі пачуўся крык «Пажар». І праўда, пажар хутка пашыраўся. Супроцьпажарныя помпы не маглі спыніць сілы агню. Людзі ў страху пачалі ціснуцца на лодкі, не хапала ўсім месца. На двух лодках выратавалася 81 асоба. Цэлы тыдзень плавалі яны па моры без ежы і вады да піцця. На адну з іх натрапіў праплываючы побач карабель. Жыло толькі 5 асоб. Другая лодка загінула без весці.

15 чэрвеня 1904 года амерыканскі экскурсійны карабель «General Slocum» плаваў у Нью-Йорскім заліве. На караблі было 1500 пасажыраў. Карабель быў стары і не надаваўся да плавання. І толькі з-за ненасытнасці пэўнай Ньюйорскай фірмы вазіў па нядзелях экскурсантаў.

У трох мілях ад берага на караблі паўстаў пажар. Так як карабль быў стары і знішчаны, супроцьпажарныя прылады на ім былі папсаваныя. Каманда карабля выпадковая. Капіталісты наймалі яе без падбору, на адзін раз, каб танней заплаціць. Яна сама выратавалася на некалькіх лодках. 2/3 пасажыраў загінула ў агні, многа патанула.

Ахвярай пажару быў і французскі трансатлантык **«Нармандыя».** Збудаваны ў 1935 годзе, да 1939 года ён быў першым па велічыні і другім па хуткасці пасажырскім караблём на свеце. У 1942 годзе на **«Нармандыі»** праз сабатаж ўзнік пажар, карабель хутка затапіўся.

Аб катастрофе англійскага **«Цітаніка»** чуў мусіць, кожны. А было гэта так. Плыў ён першы раз з Еўропы ў Н'ю - Йорк. Падчас гэтага падарожжа хацеў здабыць **«Блакітную істужку»** — узнагарода для найхутчэйшага карабля. Аб **«Цітаніку»** гаварылася, што ён ніколі не патоне. У яго люксусовых салонах 1 класа спакойна бавіліся некалькі сот прадстаўнікоў «вышэйшых сфер». Усіх разам пасажыраў на **«Цітаніку»** было 1308 і 898 асоб каманды.

Ноччу 14 красавіка 1912 года **«Цітанік»** знайшоўся ў небяспечным месцы, дзе была мажлівасць спаткаць лядовыя горы. Нягледзячы на паведамленне аб іх існаванні ў гэтым месцы, якое **«Цітанік»** атрымаў па радыё ад іншых караблёў, капітан Шміт не зменшыў хуткасці. У 23 гадз. 40 мінус **«Цітанік»** сутыкнуўся з лядовай гарой. Шкода была невялікая, але пасажыры, ды і каманда, ачараваныя верай у немагчымасць затаплення **«Цітаніка»,** спакойна ехалі далей. Вада хутка залівала карабель.

Калі трагедыя аказалася немінучай, выбухла паніка, тым большая, што, як выявілася, ратунковых лодак не хапала ўсім. Скліканыя па радыё караблі адразу ж выехалі на дапамогу, але маглі прыбыць на месцы толькі раніцай. Карабель **«Каліфорнія»,** які знаходзіўся паблізу, меў папсаваную радыёстацыю і нічога не ведаў. Праўда, ён бачыў сігнальныя ракеты, але думаў, што гэта так бавяцца на **«Цітаніку».**

У 2 гадзіны 17 мінут пасля поўначы зад карабля раптоўна асеў і праз некалькі мінут **«Цітанік»** патануў. Разам з ім патанула 1503 асобы.

Савецкі **«Чэлюскін»** выехаў 12 ліпеня 1933 года з Ленінграда, каб праехаць Паўночнай марской дарогай і выплыць у Ціхі акіян. Быў гэта час, калі Паўночная дарога не была яшчэ належна даследавана. У адлегласці 280 км. ад Ціхага акіяна **«Чэлюскін»** засеў у лядовай крызе. Абмёрз кругом на 100 км. І так няслі яго ветры і марскія цячэнні аж да лютага наступнага года. Каманда і вучоныя Чэлюскіна не спынілі даследчых прац і стараліся вывесці карабель на свабодныя ад ільду воды. Аднак, умовы пагоршыліся, і 13 лютага 1934 года ільды раздушылі **«Чэлюскіна».** Ён патануў на працягу двух гадзін. Толькі дзякуючы развазе людзей, удалося за кароткі час перанесці на лёд запасы ежы, радыёстацыю, палаткі і самалёт.

Катастрофа **«Чэлюскіна»** наэлектрызавала грамадства не толькі ў Савецкім Саюзе, але і на цэлым свеце. З гэтага часу шмат тыдняў ва ўсім свеце з цікавасцю людзі сачылі за змаганнем «чэлюскінцаў» з ільдамі. На ратунак прышлі экспедыцыі марскія, сухапутныя і паветраныя. Найлепшыя савецкія і амерыканскія лётчыкі рушылі на пошукі «чэлюскінцаў».

У выніку ўсе члены **«Чэлюскіна»** з жанчынамі і з дзіцём, народжаным у ільдах, былі выратаваны.



**Востраў Сабле на поўначы Атлантычнага акіяна з'яўляецца вельмі небяспечным месцам для караблёў. Маракі называюць яго «Марскім магільнікам». Каля Сабле разбілася і патанула звыш 500 караблёў.**



**Трансатлантык «Цітанік»**

---

*) **НЕПТУН** — бог мора ў старагрэчаскай міфалогіі.

---

# ПРОЗВІШЧЫ

**Заканчэнне. Пачатак гл. у папярэднім нумары.**

Ну, і найбольш паўстала прозвішчаў, перад усім сялянскіх, ад імёнаў сваіх бацькоў, асабліва гэта выразна выступае ў усходніх славян, у тым ліку і ў нас, беларусаў.

Прозвішчы на -віч, -іч: Пяцюкевіч, Антановіч, Сымановіч, Астаповіч, Юстыцэвіч, Пракаповіч і г. д. Мікуліч, Мініч, Якубіч і г. д., на — чык,-чук: Марцінчык, Астапчык, Адамчык, Ахрэмчык і г. д. на -ак,, -нак: Мукашонак, Казючонак, Сыманёнак і г. д. Напрыклад, паўночна - ўсходняя Беласточчына і пагранічныя з ёй паветы Гродзенскай вобласці, а таксама і Брэсцкай, маюць свае вельмі характэрныя, вельмі распаўсюджаныя прозвішчы ад імені бацькі, вось яны для прыкладу: Янюк, Алесюк, Сыманюк, Астапюк, Іванюк, Карпюк, Кандрацюк, Тарасюк, Антанюк і г. д.

Усходнія раёны Беларусі таксама маюць вельмі многа прозвішчаў у простай і непасрэднай форме, паўстаўшыя ад імён бацькоў з канцоўкай -оў, -аў, напрыкл., Пятроў, Сымонаў, і інш., а таксама ад бацкавай спецыяльнасці, нпр., Краўцоў, Шаўцоў, Сталяроў, Кавалёў, Канавалаў, Папоў і інш. Хоць рэдка, але паўставалі прозвішчы і ад імя маці, калі гэта быў чалавек гэтак званы «незаконна роджаны».

Прозвішчы з канчаткам -скі, -цкі, якія ў нашыя часы даволі шырока распаўсюджаны сярод усіх слаёў грамадства, залічаюцца да старэйшых. Гэты тып прозвішчаў сягае сваім пачаткам прынамсі ў XVI ст., калі прозвішчы з такімі канчаткамі атрымлівала шляхта — баяры. На працягу некалькіх вякоў такую форму прозвішчаў старалася прыдбаць «амбітнае мяшчанства» і паасобныя адзінкі лісліва - ўслужлівых дваровых людзей — слугі, якіх паны «ўзнагароджвалі» далікатным «панскашляхецкім» прозвішчам.

На працягу XVIII — XIX ст. на нашых землях прозвішчы на -скі, -цкі вельмі часта атрымлівалі яўрэі. Гэтая форма ўтварылася ад тых гарадоў, ці мястэчкаў, у якіх яны пражывалі. Напрыкл., Хаім з Крынак атрымаў прозвішча Крынскі, Юдэльс з Сямяціч—Сямяціцкі і г.д. Такім чынам, мы сярод яўрэйскага насельніцтва сустракаем вельмі многа сем'яў з прозвішчамі славянскай формы, напрыкл.: Віленскі, Беластоцкі, Варшаўскі, Заблудоўскі, Троцкі, Смаргонскі, Браслаўскі і г .д.

Як бачым, было вельмі многа разнародных крыніц, з якіх паўставалі прозвішчы і ўтварыліся цікавыя этымалагічныя асновы іх і граматычныя формы.

Падсумоўваючы нашы разважанні на гэтую тэму, трэба падкрэсліць важнейшыя крыніцы, з якіх «выплывалі» нашы прозвішчы:

1. Патранімічная (ад імён бацькоў),
2. Патанімічныя (ад геаграфічных назваў),
3. Ад фаху, спецыяльнасці, ці заняткаў нашай нашых продкаў (бацькоў, дзядоў).
4. Ад нашых, ці бацькоўскіх характэрных прымет фізічных, псіхічных.
5. Ад розных насмешлівых і абразлівых мянушак, накінутых суседзямі, дворнымі афіцыялістамі і чыноўнікамі.
6. Фаўністычныя, г. зн. прозвішчы са звярыннага свету: Воўк, Мядзведзь, Баран, Казёл, Верабей, Салавей, Шпак, Барсук, Заяц і г. д.
7. Батанічныя, г. зн. прозвішчы з расліннага свету: Дубок, Ліпа, Кляноўскі, Васілёк, Рамашка, Беразавец, Баравік, Сыраежка і г. д.

Апрача ўспомненых крыніц, утварыліся прозвішчы яшчэ з розных іншых прычын і пры розных акалічнасцях. Была тут мова перад усім аб крыніцах і формах нашых беларускіх прозвішчаў. Але ёсць многа ў нас «чужых» прозвішчаў, уладальнікі якіх хоць з паходжання і «чужынцы», аднак на працягу доўгага ці кароткага часу зусім асіміляваліся праз блізкае сужыццё з нашым грамадствам і сёння культурна абсалютна не розняцца ад агульнай беларускай масы, ці гэта будуць людзі з прозвішчамі «польскім», «нямецкім», «рускім», «французскім», «літоўскім» ці якімсь іншым. Трэба сказаць, што за выключэннем абсалютнай большасці прозвішчаў чыста беларускіх патранімічнага паходжання, паўночна - ўсходнія паветы Беласточчыны прадстаўляюць багацейшую мазаіку прозвішчаў як адносна свайго паходжання, так і формы.

Тут не рэдка сустракаюцца і прозвішчы старога яцвяжскага паходжання. Найбольш такіх прозвішчаў сустракаем на Сакольшчыне.

Закранутая тэма вымагае шырокага навуковага апрацавання філолагамі і этнографамі.

**М. П.**



 

**Польшча экспартуе вялікую колькасць запалак у Афрыканскія краіны.**







Жыхары ўстанаўліваюць назіральныя пасты каля пякарні і, калі пачынаюць фуру нагружаць, па сігналу паставых насельніцтва Крынак бяжыць да хлебнай крамы. Спазніўшымся застаецца толькі хлебны запах.



Грамадзянін Чарнецкі па"чен зразумець, што падзея з мышшу — справа ўнутраная.



Цудоўнае збаўленне місіянера.

«Шпількі»

## У вагоне

Бацка з сынам едуць у вагоне. Хлопчык стаў выглядаць праз акно.

— Не выглядай, сынок, бо вецер шапку сарве, — папрасіў бацька.

Але хлопчык не паслухаўся ды і далей свае. Схапіў тады бацька шапку з сынавой галавы і схаваў за сябе.

— Вось, бачыш, вецер шапку сарваў!

Расплакаўся сын па харошай шапцы. Зрабілася шкада бацьку, дык ён і кажа:

— Не плач, сынок, я свісну — і шапка прыляціць!

Свіснуў — і хуценька налажыў шапку на галаву сына.

Узрадаваўся сын, схапіў шапку, выкінуў яе праз акно і крычыць:

— Тата, свісні яшчэ раз!

Прыслаў
Рыгор МАРЧУК
Белавежа

* * *

Наталля сустрэла на рынку заплаканую Аўгіню.

— Аўгінька, што здарылася? — пытае спачувальна.

— Уяві сабе, Наталька, майго сына ўзялі ў бальніцу... 17 год хлопцу...

— А што з ім?

— Доктар гаварыў, што будуць вырэзваць сляпую кішку.

— Спакойна, спакойна, суседка, — пакляпала Наталля Аўгіню па плячах, — асноўнае — захаваць халодную кроў. Не трэба хваляванца. Хлопец малады, напэўна, яму адрасце...

# КРЫНСКІЯ ПЕКАРЫ

**Добра ў Крынках. Сонейка грэе добрасумленна, зялёна навакол, за мястэчкам хвалюючца залацістыя ўзгоркі, у лагчынках прагульваюцца авечкі пад наглядам няпоўналетніх грамадзян.**

**І быў бы ў Крынках рай на зямлі, калі б не хлебныя цяжкасці.**

**Маласвядомыя жыхары не умеюць, якія цяжкасці пераадольваюць браты — пекары, пакуль выцягнуць хлеб з печкі.**

**І дроў нашчапаць трэба, і ў пякарню нацягаць. А печку не распаліць дух святы, самім пекарам даводзіцца гэтым займацца. Таксама і з цестам, хто за іх яго замесіць, пекары над цестам мучацца. Булкі вырабляць і ў печ усаджваць — каму ж, як не пекарам?!**

**У гэтых справах несвядомыя жыхары не разбіраюцца, ім гатовы хлеб падавай.**

**Да вытворчых цяжкасцей з хлебапячэннем даходзяць іншыя няўвязкі.**

**Няма ў пякарні гадзінні"ў — ходзікаў, і пекары не ведаюць, калі трэба пачынаць дровы калоць, а калі канчаць гарэлку піць.**

**Таму выпек хлеба цягнецца з рана да вечара, а ў хлебнай краме не ведаюць, калі хлеб прывязуць.**

**Жыхары ўстанаўліваюць назіральныя пасты каля пякарні і, калі пачынаюць фуру нагружаць, па сігналу паставых насельніцтва Крынак бяжыць да хлебнай крамы. Спазніўшымся застаецца толькі хлебны запах.**

**Крынскія пекары любяць пажартаваць, таму часта ў хлебе трапляюцца: шнуркі, цвікі, гузікі і іншыя каштоўныя прадметы ў гаспадарцы.**

**Зразумела, прадаўшчыца хлеба Тамара Лотыш не ведае, што дзе запечана; таму, хто патрабуе гузік, трапляецца шнурок і наадварот.**

**Нядаўна грамадзянін Ян Чарнецкі вялікі шум падняў з выпадку запечанай у хлебе мышы. На шчасце высветлілася, што гэта быў не хлеб, а пірог з начынкай.**

**Зразумела, чытачы могуць сказаць: «Непарадкі! Куды глядзіць грамадская Рада?».**

**Эх, людзі добрыя! Кожную справу разумець трэба. Рада глядзіць на міжнароднае становішча і не мае часу займацца дробязямі ў пякарні.**

**Грамадзянін Чарнецкі па"чен зразумець, што падзея з мышшу — справа ўнутраная.**

**Праўленне ГС таксама з часам прыйме свае меры, калі старшыні праўлення трапіцца ў хлебе мыш.**

**Учынкі крынскіх пекароў падаюць надзею, што такое здарыцца, і тады я змагу пажадаць старшыні прыемнага апетыту.**

*Дзядзька Лявонь*

## З юбілейнага вечара

мастацкага калектыву пры ГП БГКТ.



Старшыня ГП БГКТ: — Ну што ж, пані Зюлкоўская, пара змяніць рэпертуар...




# ГУМАР З „БАРАДОЮ"

Паручнік сказаў салдату асядлаць каня. Салдат залажыў сядло наадварот, гэта значыць перадам у зад.

— Чаму ты так асядлаў? — здзівіўся паручнік.

— Выбачайце, я не ведаў, у які бок вы паедзеце.

* * *

Адзін чалавек хацеў павесіцца. Пайшоў у краму, купіў цвік і ўбіў яго ў сцяну. Калі стаў вешаца, цвік зламаўся і самабойцу прыйшлося з трэскам паляцець на зямлю.

— Цьфу ты, паскудства! Праз чортавых бракаробаў амаль не забіўся.

* * *

Здарылася гэта даўно — даўно, калі на вёсках былі самасуды. Асудзілі аднойчы каваля за забойства на смерць. Тады каваль і гаворыць:

— У нас у вёсцы два шаўцы, а я, каваль, адзін. Калі вы мяне заб'еце, не будзе каваля, а шаўца і аднаго хопіць.

Людзі паслухаліся і забілі шаўца.

Л. С.

### ГЭТА ТАМУ, ШТО...

— Чаму гэта мне ўсё глупствы лезуць у галаву?

— Таму, што ты за вярсту ад здаровага розуму.

### НЕШТА СТРАШНАЕ

— Пеця, — крычыць усхваляваная жонка, — я павінна расказаць табе нешта страшнае. Я была ў цыганкі і яна мне сказала, што ў гэтым годзе буду ўдавою.

— Ну, дык куды ж ты спяшаешся? — спытаў збянтэжаны Пеця.

— Мы павінны неадкладна ўзяць развод, — адказала жонка.

### У ГРАМАДСКАЙ РАДЗЕ

Сакратар:

— Проста розуму не прылажу, што з вашай паперай рабіць?

Дзямід:

— А вы, сакратар, розуму не прыкладайце, лепш прылажыце пячатку.

### ЗАГЛАДЗІЎ ЗЛО

— Чаму ты, Надзя, выпраўляеш такія слаўныя хаўтуры па мужу? Ён жа быў праклясцем твайго жыцця.

— Праўда, быў, але пад канец ён зрабіў такі ўчынак, што загладзіў усё свае зло.

— Не можа быць, — дзівіцца сястра, а які ж гэта быў учынак?

— Ён узяў ды памёр.

Прыслаў
Уладзімір ВЯЗОЎСКІ

### РАСТЛУМАЧЫЎ

Адзін з сяброў Пікаса агледзеўшы яго самыя новыя працы, прызнаўся яму шчыра:

— Даруй, але я гэтага не разумею. Такія рэчы не існуюць!

На тое Пікаса:

— А ці кітайскую мову ты разумееш?

— Не.

— А ўсё ж-такі кітайская мова існуе!

### НА ПРЫЗБЕ

Селі суседкі вечарам на прызбе і гутараць:

— Ведаеце, я чула, што Марыся ўжо ў пятым месяцы...

— Цікава з кім гэта?...

— Дзіва, што цікава! Як сунеце руку ў мурашнік, дык пазнаеце, каторая мурашка вас укусіла?...